

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.

№8 (190) ТРАВЕНЬ 2015 ГОД


ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## ВЫБАРЫ ПРОЙДУЦЬ ЦІХА І НЕ ЗАЎВАЖНА

**Палякі абралі новага прэзідэнта. Анджэй Дуда, кандыдат ад партыі Права і справядлівасьці ў хуткім часе зменіць дзейнага кіраўніка Браніслава Камароўскага. Новы прэзідэнт Польшчы набраў амаль 52% галасоў. У гэтым годзе прэзідэнскія выбары мусяць адбыцца і на Беларусі. Але ці адчувае мясцовае жыхарства набліжэньне далёка неардынарнай падзеі?**

Адказ на гэтае пытанне ляжыць на паверхні. Як падаецца, такой апатыі, абыякавасьці і нейкай падпарадкаванасьці абставінам не было нават напярэдадні распаду СССР. Але тады было выйсьце, перспектыва: «Свабода» і «Голас Амерыкі» адкрывалі вочы таму, хто таго прагнуў. Станавіліся даступнымі «Архепелаг ГУЛаг» і раней забароненыя творы, паявіліся «Талака», «Узвышша», пачалі ўзнікаць новыя дэмакратычныя партыі, можна было гаварыць на ўвесь голас, зьявіўся сэнс, які толькі ўсяго і трэба было, што ўвасобіць у жыцьцё. Але ж увасобіць не ўдалося, бо тое адкрыцьцё свабоды і дэмакратыі не прайшло праз сэрцы асноўнай масы тутэйшых людзей.

На экранах усё тыя ж знаёмыя твары, нібыта заляцелыя з сярэдзіны сямідзесятых, толькі ў далёка не савецкіх строях з заходніх буцікоў. Але ж твары тыя самыя, толькі нейкія сумныя, заклапочаныя, а справа ў тым, што першыя ў перамогу камунізму верылі, а гэтыя вераць толькі варожай валюце ва ўласнай кішэні, якой да жалю апошнім часам прыкметна паменела. Першыя нават у жахлівым сне не маглі ўбачыць, што СССР рухне і яны згубяць уладу. Сучасныя ж добра разумеюць, што дай слабіну, выпусьці лейцы з рук і ўлада выслізне, як слімак. Таму трымаюцца за яе, як могуць, а могуць яны толькі за чужы кошт, за кошт уласнага народа, які так прызвычаіўся жыць пад прымусам, што паводзіць сябе, як тыя расейскія сяляне пасьля прыгоннага права, што адмаўляліся сыходзіць ад пана на вольны хлеб. Свабоды няма, затое мінімум забяспечаны, пры чым для кожнай сацыяльнай групы свой. Дэферэнцыяцыя, новыя падыходы.

Паколькі на носе «выбары», на нейкі час стабілізавалі валюту, забаранілі звальняць працоўных і змяншаць колькасць рабочых месцаў, нават, уявіце сабе: «на предприятиях с неполной занятостью» далі «людям возможность подработать» таму, што «законодательство это позволяет». Вось толькі, як гэта зрабіць на справе патлумачыць забылі. Але ж клопат відавочны, не паспрачаешся.

І не бяда, што асноўны прыбытак дзяржаве забяспечваюць усяго толькі прадпрыемствы хімічнай прамысловасьці і нафтаперапрацоўчыя заводы. Не бяда, што ўсё часцей спыняюцца заводы і працоўныя сыходзяць у вымушаны адпачынак. Не бяда, што спраты прадпрыемстваў складаюць мільярды рублёў. Не бяда, што назіраецца рост складскіх запасаў гатовай прадукцыі. Ніякага росту сацыяльнай напружанасьці з тае нагоды чакаць не даводзіцца. Не чакае яе ўлада, не чакае яе і апазіцыя. Перамены тутэйшаму грамадству не па нутру, з абодвух бакоў сацыяльнай пераміды. Таму спіце спакойна, і спадзявайцеся на лепшую будучыню, якая нечакана зваліцца на вашу галаву.

А выбары пройдуць ціха і не заўважна, «як з яблынь белы дым».

**Алесь Шумскі**

**ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY**

ГРАМАДСТВА І ЗАКОН

## ПАЖЫЦЦЁВАЕ ЗНЯВОЛЕННЕ ДВУХ ЖЫХАРОЎ ШУМІЛІНА

**Раней неаднаразова судзімыя асобы – двое мужчын 39 і 42-х гадоў, якія здзейснілі асабліва цяжкія злачынствы ў Бешанковіцкім і Віцебскім раёнах, прысуджаныя да пажыццёвага зняволення з канфіскацыяй маёмасці.**

"З улікам выключнай небяспекі для грамадства, цяжару наступстваў судовая калегія па крымінальных справах Віцебскага абласнога суда пагадзілася з пазіцыяй дзяржабвінавачання і прыйшла да высновы аб неабходнасці прызначэння ім канчатковага пакарання па сукупнасці злачынстваў у выглядзе пажыццёвага зняволення з канфіскацыяй маёмасці. Таксама задаволены грамадзянскі пазоў пацярпелых аб матэрыяльным пакрыцці маральнай шкоды на Br450 млн", – паведаміў дзяржабвінаваўца па справе пракурор аддзела пракуратуры Віцебскай вобласці Алег Антоненка.

Прысуд вынесены ў дачыненні да двух жыхароў Шуміліна, раней неаднаразова судзімых. "Яны пазнаёміліся ў месцах пазбаўлення волі і пасля вызвалення ў 2014 годзе сустрэліся ў Шуміліна, вырашылі здзяйсняць рабаванні, нападаючы на дома. Грунтоўна да гэтага рыхтаваліся – выкарыстоўвалі маскі, загадзя выраблялі дубінкі, адбывалі ў іншыя раёны, каб замесці сляды", – адзначыў пракурор. Паводле яго слоў, абвінавачаныя выбіралі дамы, на іх думку, заможных людзей, арыентуючыся па знешніх прыкметах.

"Па двух эпізодах ахвярамі сталі сямейныя пары. Мужчынам наносілі ўдары ў галаву палкамі, ад чаго абодва пацярпелыя памерлі. Пад пагрозай і пры непасрэдным ужыванні гвалту да жанчын завалодвалі грашыма, маёмасцю, залатымі вырабамі. Іх дзеянні кваліфікаваныя па ч.3 арт.207 і па ч.2 арт.139 КК па кожным з эпізодаў", – распавёў Алег Антоненка.

Як паведамлялася, у праваахоўныя органы паступіла паведамленне, што ў адзін з дамоў вёскі Берасні Бешанковіцкага раёна ўварваліся двое невядомых у масках з прарэзамі для вачэй і рота. Тыя, хто нападаў, выкарыстоўваючы драўляныя прадметы, накшталт бейсбольных біт, збілі мужа і жонкі, якія пражываюць у доме, і звязалі іх. У выніку нападу пацярпелая доўгі час знаходзілася на лячэнні, яе муж памёр ва установе аховы здароўя ад атрыманых траўмаў. У гэтыя ж суткі Бешанковіцкага раёна аддзелам Следчага камітэта была ўзбуджаная крымінальная справа па арт. 207 КК (разбой).

Праз тыдзень аналагічнае злачынства было зарэгістравана ў вёсцы Подлазнікі Віцебскага раёна. Двое невядомых у масках, з драўлянымі палкамі ў руках, выставіўшы аконнае шкло веранды, пранiклі ў дом, дзе з ужываннем гвалту, небяспечнага для жыцця, завалодалі маёмасцю, якія належаць якая пражывае ў доме сямейнай пары. Пражываючаму ў доме мужчыну былі нанесены цялесныя пашкоджанні, ад якіх ён праз тыдзень памёр.

Праведзены комплекс аператыўна-вышуковых і пошукавых мерапрыемстваў, зладжаная і пісьменная праца супрацоўнікаў праваахоўных органаў дазволілі ўсталяваць вінаватых асоб па гарачых слядах. Па непасрэдна ўзніклым падазрэнні ў здзяйсненні злачынства былі затрыманыя двое мужчын, 1973 і 1976 года нараджэння. У момант затрымання ў асабістых рэчах падазраваных было выяўлена выкрадзенае имущество.ч343

**belta.by**

ЗЛАЧЫННАСЦЬ

## ЛІДЭРЫ СЯРОД КРЫМІНАЛЬНЫХ РЭГІЁНАЎ

**Шуміліншчына ўваходзіць у сямёрку лідэраў сярод раёнаў Беларусі па колькасці зарэгістраваных злачынстваў на 100 тысяч насельніцтва.**

Паводле дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта, найбольшая колькасць злачынстваў, учыненых у мінулым 2014, фіксуецца ў Лагойскім раёне, найменшая - вакол Браслава.

Усяго ва ўсёй краіне было зафіксавана 93932 злачынства. Гэта найменшая лічба ў параўнанні з папярэднімі гадамі.

Часцей за ўсё здзяйсняліся крадзяжы (43,1%), злачынствы, звязаныя з наркотыкамі (7,8%) і махлярства (4,3%).

Найбольшая колькасць злачынстваў фіксавалася ў Мінску - больш за 20 тысяч, аднак у пераліку на насельніцтва лічбы не выглядаюць фатальнымі.

Калі ж казаць пра колькасць злачынстваў па раёнах, то ў лідэрах наступныя рэгіёны, у тым ліку і наш Шумілінскі раён:

1. Лагойскі 1597 *
2. Пухавіцкі 1584
3. Глускі 1563
4. Смалявіцкі 1547
5. Шумілінскі 1543
6. Бярэзінскі 1510
7. Крупскі 1440

*Тут і далей - колькасць зарэгістраваных злачынстваў на 100 тысяч насельніцтва

Дарэчы, Шуміліншчына займае другое месца сярод раёнаў Віцебскай вобласці, а лідзіруе Віцебскі - тут здзейснена 1586 злачынстваў.

У цэлым узровень злачыннасці ва ўсходняй Беларусі вышэй, чым у Заходняй. Але найвышэйшы ўзровень - у раёнах вакол Мінска, куды, відавочна, выціскаецца крымінальная і дэкласаваных элементы са сталіцы.

Асобна трэба згадаць наваколлі Бабруйска. Як і раней, Бабруйскі раён (за выключэннем самага райцэнтра) мае высокія паказчыкі злачыннасці. Аднак цяпер мы вырашылі для больш аб'ектыўнай карціны аб'яднаць лічбы горада і раёна.

Самыя бяспечныя раёны выглядаюць наступным чынам:

1. Браслаўскі 543
2. Жабінкаўскі 603
3. Драгічынскі 604
4. Іваноўскі 606
5. Ляхавіцкі 632
6. Навагрудскі 643
7. Воранаўскі 652

**Ян Вайтовіч**

ПАДАТКОВЫ КАНТРОЛЬ

# ДАДАТКОВЫ ПАДАТАК ДЛЯ ПЕНСІЯНЕРКІ

**Падатковая інспекцыя выявіла факты ўтойвання даходаў пенсіянеркай з Шумілінскага раёна, якая купіла ў горадзе Віцебску дзве кватэры ў 2004 і 2013 гадах.**

У якасці крыніцы даходаў, на якія былі набыты кватэры, пенсіянерка паказала суму пенсіі па ўзросту. Таксама яна патлумачыла, што частка грошай атрымала ад сваякоў з Расіі, што знайшло пацвярджэнне, а 21 тысячу долараў ёй нібыта падарыў муж, цяпер нябожчык. Праверыўшы фінансавы стан і крыніцы даходаў жонкі, інспектары высветлілі, што ён мог сабраць максімум 6000 даляраў. Ёй было заяўлена патрабаванне аб прадстаўленні дэкларацыі аб даходах і маёмасці, у выніку праверкі якой падатковымі інспектарамі ўстаноўлена відавочная неадпаведнасць выдаткаў у памеры 860 мільёнаў рублёў атрыманых даходах.

Перавышэнне расходаў над даходамі склала больш за 100 мільёнаў рублёў, у сувязі з чым ёй быў вылічаны і прад'яўлены да выплаты падаходны падатак у суме 13 мільёна 800 тысяч рублёў. Аднак, паколькі яна не захацела выплачваць падатак у добраахвотным парадку, матэрыялы для яго прымусовага спагнання перададзены судовым выканаўцам, паведамляе прэс-цэнтр інспекцыі МПЗ па Віцебскай вобласці.

**"Народныя навіны Віцебска"**

ЗДАРЭННІ,КРЫМІНАЛ

# ГАРАЦЬ ЖЫЛЫЯ ДАМЫ

**Апоўдні загарэўся прыватны дом у вёсцы Клетчына**

У выніку пажару ў жылым доме, які належыць 67 гадовай пенсіянерцы, былі знішчаны дах, потолочное перакрыцце, маёмасць,пашкоджаныцсцены. Пацярпелых няма, прычына пажару высвятляецца.

**Сяржук Горкі**

# АБАКРАЛІ ПЕНСІЯНЕРКУ

**У міліцыю звярнулася 68-гадовая пенсіянерка і паведаміла, што ў яе дом пракраўся невядомы зламыснік і скраў грошы.**

13 мая ў 16 гадзін 20 хвілін у Шумілінскі РАУС паступіла заява ад пенсіянеркі 1946 года нараджэння, што ў перыяд з 11 да 16 гадзін неўсталяваны злачынец, выставіўшы аконнае шкло, пракраўся ў яе дом і здзейсніў крадзеж грошай у суме 500 тыс. рублёў.

Супрацоўнікам міліцыі ўдалося знайсці падазраванага. Ім аказаўся непрацуючы 25-гадовыхлопец-мясцовыжыхар. Па дадзеным факце 14 траўня ўзбуджаная крымінальная справа па ч. 2 арт. 205 КК.

САЦЫЯЛЬНАЯ ПАЛІТЫКА

# ЗА 37 ЛЕТ ТРУДОВОГО СТАЖА – 2,6 МИЛЛИОНА В МЕСЯЦ И 2 ПАМПЕРСА В ДЕНЬ

**Сколько слов благодарности в преддверии Дня Победы было сказано в адрес ветеранов войны, а вместе с тем за этими официозными и помпезными фразами как-то затерялись судьбы детей войны, которые не получали наград, не участвовали в боевых действиях, но настрадались нисколько не меньше тех, кто воевал. А теперь тихо и незаметно покидают они этот мир.**

Александр М. живет в Шумилинском районе. Три года ухаживает за престарелой восьмидесятитрёхлетней матерью, инвалидом первой группы. Женщина прикована к постели, страдает энцефалопатией, происходит постепенноеотмираниесосудов коры головного мозга.

Как бывшая учительница с 37-летним стажем получает пенсию в 2 миллиона 600 тысяч рублей. После достижения восьмидесятилетнего воз-раста стали доплачивать ещё миллион. 57-летний сын оформлен по уходу за матерью и получает от государства около миллиона четырёхсот рублей. Уход необходим специальный и круглосуточный. Через каждые 2-3часасцельюпредотвращения пролежней больную необходимо переворачивать, менять положение.

***Александр, с какими трудностями приходится Вам сталкиваться при уходе за престарелой матерью?***

Кроме меня её никто не накормит: с чайной ложки кормлю два года. И пою с чайной ложки. Еду готовить нужно также специальным образом: миксер не выключается. Всё измельчается. Детские консервы нужны, мясные особенно, детское питание. Например, 100 грамм детских консервов (говядина) стоит 20 тысяч. Если каждый день давать – 600 тысяч рублей только на одни консервы. Гречку варю, и превращаю миксером в однородную массу. То же самое делается с яблоками, которые перед этим запекаются. Всё это смешивается и превращается в кашу. Иначе не получается, потому что нарушен механизм глотания. Со всеми остальными продуктами происходит то же самое. Такой уход отнимает много времени.

***А как обстоят дела с обеспечением лекарствами? Помогает ли государство?***

Лекарства?Например,япровёл курс лечения сроком в две недели для стимуляции работы почек. Стоимость «Фурамага» – 150 тысяч, «Канефрона» – 162 тысяч. Итого — больше 300 тысяч. Это не оплачивается. Даётся компенсация только при каких-то страшных болезнях, например при глаукоме, но там лекарство стоит копейки – 20-30 тысяч.Даюкаждыйденьсредство от судорог – «Карбамазепин», который оплачивается, но, опять же, стоит он 40 тысяч. Оплачиваются только лекарства дешёвые, но не лекарства, которые периодически необходимы для проведения курсов лечения. А ведь у любого стареющего человека целый букет хронических заболеваний. И лекарства эти, как правило, у нас не выпускаются. Выходит, белорусская фармакология не хочет лечить таких больных. Для лечения хронического пиелонефрита, камней в почках, своих лекарств нет.

***А что с обеспечением нуждающихся средствами личной гигиены?***

Памперсов нужно минимум четыре штуки на сутки. На эти цели государство выделяет на квартал компенсацию в 2 миллиона 200 тысяч рублей. Это 725 тысяч рублей в месяц. А в месяц нужно четыре пачки (120 памперсов), одна пачка стоит около 400 тысяч рублей. Вот и считайте – 1 миллион 600 тысяч рублей в месяц. На квартал – 4 миллиона 800 тысяч рублей. Неподъёмная сумма получается для обыкновенной белорусской семьи, проживающей в сельской местности.

А теперь вдумайтесь: в начале года упаковка памперсов стоила 230 тысяч, а после взлёта цен – 395 тысяч. Почти двукратное подорожание! В январе государственная компенсация составляла 1 миллион 800 тысяч рублей, но после подорожания она выросла всего на 400 тысяч. Разницу чувствуете? Теперь мне нужно за квартал выделять из нашего скудного бюджета 2 миллиона 600 тысяч рублей, хотя раньше я использовал на эти цели всего лишь 960 тысяч. Большое спасибо: помогают родственники.

***Последние три года вы не работаете по специальностиизанимаетесь исключительно уходом за матерью. Существует ли для среднестатистического белоруса какая-либо иная возможность помочь своим близким, находящимся в таком положении, как Ваша мать?***

Я прикован к матери. Если я сдам самого близкого мне человека на социальную койку, она через месяц умрёт. Никто там так, как я, за ней смотреть не будет. Я этого сделать не могу. Уход за матерью – это мой последний долг перед ней. За то, что я освободил государство от дополнительного бремени, оно платит мне миллион четыреста, но что это для взрослого, физическиздорового,мужчины? Разве за эти деньги можно жить и полноценно питаться?

За 37 лет трудового стажа учительницей мать получила от государства 2 памперса в день и 2 миллиона 600 тысяч пенсии. Для того, чтобы пенсия увеличилась на миллион, нужно ещё было дожить до восьмидесятилетнего рубежа, что удаётся далеко не каждому. Это нормально? И это ещё хорошо, ибо неизвестно, какого подарка ожидать от «социально ориентированногогосударства» будущим поколениям здешних пенсионеров.

В непросвещённых семьях больные такого рода долго не живут, умирают в основном через месяц-два. По существу, это невольная или вынужденная эвтаназия невежества. Благодаря тому, что я пользуюсь интернетом, экспериментирую, постоянно образовываюсь, мать ещё живёт. И на мне этого греха нет.

***Скажите, как обстоят у нас дела с обеспечением со стороны государства больных специальными средствами ухода?***

От постоянного лежания выделяется мокрота, которую нужно постоянно отсасывать, а отсасывателя мокроты нет, и стоит он немалых денег. Приходится отсасывать обыкновенной спринцовкой. Невозможно у нас в стране купить и специализированную кровать для лежачих больных. Невозможно по двум причинам: ввиду отсутствия таковых и ввиду хронической неплатежеспособности сред-него белоруса.

Можно было бы организовать пункт проката или выделять на время через существующие районные территориальные центры, как это, наконец-то, сделано касательно инвалидного кресла. Приходитсямучиться,используя обычную кровать. Представляю, чего это стоит тем, кто ухаживает за больными с избыточным весом. Это мука и для больных, и для родственников. Социальная и государственная аморфность в этом вопросе поражает. Такое впечатление, что про свою старость никто не думает. Или все рассчитывают умереть внезапно и во сне?

***Поделитесь вашими впечатлениями по поводу медицинского обслуживания такого рода больных.***

В июле прошлого года у мамы упало давление, стало совсем плохо: дыхание прерывистое, пульс еле прощупывался. Вызвал скорую помощь. Я заметил: когда старикам за восемьдесят, особо не хотят и ехать. Во всяком случае, не спешат. Приехал молодой врач, осмотрел её, померил давление и заявил: «Давления практически нет. А что вы хотите – идёт естественный процесс умирания, пришло время». Я звоню брату, он у меня врач, живёт в соседней области. Тот и вставилмолодому«профессору» мозги: «Пульс есть?» – «Есть». – «Дышит?» – «Дышит». – «Грузите и везите в районную больницу. Умрёт в скорой – значит, умрёт в скорой. Умрёт в приёмном покое – значит, умрет там. Умрёт в реанимации – значит, умрёт в реанимации. Давления нет – поднимайте. Вы работайте. Делайте своё дело. А умирает она или не умирает – не вам решать».

Это было год назад! После случившегося мать уже год прожила! Они или не хотят работать, или перегружены? За жизнь пожилого человека особо бороться никто не хочет. А в реанимации она ожила».

***Говорят,чтопоотношению общества и государства к старикам и детям можно определить, какое будущее ожидает ту или иную страну. Что вы можете сказать по этому поводу?***

Проблема в том, что у нас в стране врачи и учителя превращены государством в чиновников: они отчитываются не перед больными, не перед народом, а перед вышестоящими начальниками. Выполнениесвоихобязанностей у них стоит далеко не на первом месте. Они занимаются выполнением прогнозных показателей, социальных стандартов, выборами. А захочешь качественного медицинского лечения или хорошего образования – плати деньги. Оборудование в районе устаревшее, почти ничего не меняется, но – самое страшное – никто и не требует. Врачи не требуют, не выполняют своего предназначения.

Почему на ледовые дворцы деньги нашлись, а на человеческое здоровье – нет? А где современное оборудование, отвечающее стандартам 21 века? Меня поражают безынициативные люди. Как есть – так есть. Нет развития. Поэтому мы последние двадцать лет находимся в 80-х годах прошлого века…

**Сергей Горький**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

ПОСТСАВЕЦКАЯ ІНТЭГРАЦЫЯ

# РЫФЫ НА РОЎНЫМ МЕСЦЫ

**Саміты Садружнасці незалежных дзяржаў (СНД) і Еўразійскага эканамічнага Саюза (ЕАЭС), якія адбыліся 8 мая актуальныя для Масквы, але прадэманстравалі быццам бы дыяметральна супрацьлеглыя тэндэнцыі ўнутры гэтых структур.**

**СНД: усё больш малалюдны клуб**

Вядома, першае з гэтых мерапрыемстваў можна лічыць важным толькі з некаторай нацяжкай, пра што наглядна сведчыць практычна поўная адсутнасць цікавасці да яго з боку вядучых расійскіх сродкаў масавай інфармацыі.

Па-першае, саміт быў нефармальным, у дадатак ўдзел у ім прынялі толькі шэсць кіраўнікоў дзяржаў з адзінаццаці, якія фармальна яшчэ ў арганізацыі - Беларусі, Казахстана, Кіргізіі, Расіі, Узбекістана і Таджыкістана. А вось іх калегі з Азербайджана, Арменіі,Малдовы,Туркменістана і Украіны маскоўскі збор праігнаравалі.

Па-другое, ніякіх сур'ёзных рашэнняў там не прымалася, калі, зразумела, не лічыць дасягненні (прычым, падобна, не без цяжкасці) дамоўленасці аб правядзенні 9 кастрычніка ў Астане наступнай, ужо афіцыйнай, сустрэчы.

Па прапанове Нурсултана Назарбаева ў якасці яе асноўнай тэмы была вызначана барацьба з тэрарызмам. Справа, безумоўна, важнае, вось толькі за амаль чвэрць стагоддзя свайго існавання СНД так і не праявіла здольнасці ўвасабляць у жыццё нават самыя лепшыя намеры.

Гаворка, зразумела, ідзе не пра шматлікія сімвалічныя акцыі. Напрыклад, праграма СНД, прысвечаная 70-годдзю Перамогі, уключае ў сябе больш за 60 пунктаў - ваенныя парады, эстафета Перамогі ўздоўж знешніх межаў Садружнасці, перавыданне мемуараў, мастацкіх твораў і да т.п. З гэтым як раз усё ў парадку, праблемы пачынаюцца, калі справа даходзіць да канкрэтных стваральных дзеянняў, накіраваных на перспектыву.

Зрэшты, хай у чыста вербальным плане, але адзно больш-менш сур'ёзаеы пытанне ўсё-ткі было закранута. Як адзначыў Аляксандр Лукашэнка, «у цяперашні час украінскі бок дэ-факта згортвае ўдзел у дзейнасці СНД, не фінансуе агульны бюджэт, а яна другая была па колькасці напаўнення бюджэту пасля Расіі, не ўдзельнічае ў планавых мерапрыемствах, адклікала пастаяннага паўнамоцнага прадстаўніка».

І хоць пры гэтым было выказана меркаванне, што «выхаду Украіны з СНД наўрад ці варта чакаць», паколькі беларускі лідэр сам ўгаворваў яе кіраўніцтва не спяшацца, слаба верыцца, што ва ўмовах шырокамаштабнай расійскай агрэсіі Кіеў да гэтых заклікаў прыслухаецца.

Тым больш што дэ-юрэ Украіна фармальна не з'яўляецца чальцом Садружнасці, паколькі не ратыфікавала яго статут.

Наступным ўцекачом стане, хутчэй за ўсё, Малдова, якая дастаткова ўпэўнена рухаецца ў бок аб'яднанай Еўропы. Сумнеўна таксама, што надоўга затрымаецца ў Садружнасці Азербайджан.

**У ЕАЭС - папаўненне**

Наадварот, другі саміт прайшоў у значна больш аптымістычным ключы, так як, у адрозненне ад СНД, ЕАЭС працягвае пашырацца. Менавіта ў Маскве да чатырох яго членам - Арменіі, Беларусі, Казахстану і Расіі - далучыўся Кыргызстан.

Да таго ж прэзідэнт Казахстана Нурсултан Назарбаеў у чарговы раз нагадаў пра краіны, якія жадаюць далучыцца да ЕАЭС: «Нягледзячы на тое, што ва ўмовах крызісу ўзаемны гандаль прасядае, я лічу, што Еўразійскі эканамічны саюз мае вялікую перспектыву. Вы паглядзіце, чаму многія краіны хочуць - Кітайская Народная Рэспубліка хоча стварыць свабодную эканамічную зону [з ЕАЭС], В'етнам, сёння мы дамовіліся, што Турцыя хоча з намі быць, Індыя з намі хоча быць ».

Спіс сапраўды ўражвае. Больш за тое, гэта ўжо зусім не толькі намеры: Еўразійскай эканамічнай камісіі на саміце было даручана пачаць працу над усёабдымнай пагадненнем аб партнёрстве і супрацоўніцтве з Кітаем.

Не выключана, між іншым, што цяперашні аб'езд старшынёй КНР Сі Цзіньпінам сталіц трох вядучых еўразійцаў як раз і звязаны з тым, што намячаецца пашырэнне супрацоўніцтва.

**Будучыня еўразійскай інтэграцыі таксама пад пытаннем**

У той жа час у рамках ЕАЭС пастаянна ўзнікаюць прыкрыя пытанні. Скажам, ці змогуць ва ўмовах глыбокіх рознагалоссяў з нагоды братоў Бакіевых, у экстрадыцыі якіх Мінск адмаўляе Бішкеку, плённа ўзаемадзейнічаць Беларусь і Кыргызстан?

Ці як стасуюцца з бравурнай рыторыкай партнёраў аб дружбе ўспыхваюць раз за разам гандлёвыя войны Расеі з Беларуссю і Казахстанам?

Нарэшце, галоўнае: ці не прывядзе жаданае збліжэнне ЕАЭС (сумарны ВУП у 2014 4,2 трыльёна даляраў) з Паднябеснай (17,6 трлн.), Індыяй (7,4) і Турцыяй (1,5) да непазбежнай страты Масквой дамінуючай пазіцыі у саюзе, для чаго апошні, уласна, ёю і ствараўся? Ці пагадзіцца Крэмль гуляць у ім другарадную ролю?

Як уяўляецца, адказы на гэтыя і падобныя пытанні зусім не відавочныя, а таму ЕАЭС ў канчатковым рахунку можа напаткаць лёс СНД.

**Андрэй Фёдараў, палітолаг**



"Новы час"

ФІНАНСАВАЯ ПАЛІТЫКА

# УДЕРЖАНИЕ КУРСА РУШИТ ЭКОНОМИКУ

**Курс доллара к белорусскому рублю снизился почти до 14 тысяч. Почему это произошло и чем чревато?**

Еще 3 февраля согласно официальному курсу Нацбанка доллар стоил 15450 рублей, 12 марта – 15200, а 19 мая – уже «всего лишь» 14040.

За три с половиной месяца белорусская валюта укрепилась по отношению к американской почти на 10%. Небывалый успех! Почему это произошло и чем чревато?

Отчасти белорусский рубль тянет за собой его российский собрат. В конце прошлого года девальвация в РФ стала одной из причин «корректировки курса» в Беларуси. Но нынешней весной российская валюта приподнимается с колен, а с ней укрепляется и наша.

Но не всех это радует. Экономист Александр Обухович пишет в «Белгазете»: «Наше новое «правительство банкиров» все крутится вокруг стабилизации курса доллара. Уповая почти исключительно на монетарные методы. Методика удержания курса от Ермаковой с некоторыми несущественными вариациями продолжает работать, круша и уничтожая остатки нашего экономического потенциала.

Суть методики проста, как грабли, на которые мы регулярно наступаем. Если не удается заработать достаточно долларов, чтобы удовлетворить спрос при разумном курсе, нужно сжать рублевую денежную массу настолько, чтобы не было «лишнего» спроса на доллары. Включая снижение зарплат и прочих доходов населения. Вполне по Гаутаме: если счастье в соответствии наших возможностей нашим потребностям, есть два пути к счастью. Можно повышать возможности, но можно и снижать потребности. До уровня возможностей....».

К тому же нынешнее повышение курса белорусского рубля к доллару повышает вероятность очередной девальвации в обозримом будущем. Необходимо учитывать, что, помимо не блестящих показателей нашей экономики (ВВП по итогам первого квартала снизился на 2%), свинью может подложить и Россия, чья валюта на данный момент многими считается переоцененной. Центробанк РФ уже взял курс на ослабление своего рубля. Так что, и в Беларуси существует вероятность, что доллар вскоре снова будет стоить от 15 тысяч и выше.

**Михаил Брошин**

ЭКАНАМІЧНЫ КРЫЗІС

# ЧАМУ НЕ ЧУВАЦЬ ПРАТЭСТАЎ?

**Эканамічная сытуацыя ў краіне працягвае пагаршацца. Чаму беларусы маўчаць і цярпяць?**

Экспарт з пачатку году ўпаў на 30%. Паводле зьвестак Белстата, валавы ўнутраны прадукт за першыя 4 месяцы скараціўся на 2,6% у адносінах да аналягічнага пэрыяду мінулага году. Цікава, як грацыёзна падаў гэты сумны факт прэм'ер-міністар Андрэй Кабякоў на паседжаньні ўраду ў аўторак: «Адаптацыі эканомікі краіны да прынцыпова іншага зьнешняга стану спадарожнічае запаволеньне росту ВУП па выніках І квартала на 2%». То бок падзеньне ён назваў «запаволеньнем росту».

У краіне скарачаюцца рэальныя заробкі. Зарэгістраванае беспрацоўе за год вырасла ўдвая, і ў 5 разоў павялічылася колькасьць тых, хто працуе зь няпоўнай занятасьцю.

Здавалася б, такая цяжкая эканамічная сытуацыя павінна была бперарастаць у сацыяльны крызіс, незадаволеньне людзей — пераходзіць у публічную плашчыню, вылівацца ў нейкія формы пратэсту, але не чутна нічога. Абсалютна. Мёртвы зыб. Чаму? На мой пагляд, ёсьць некалькі прычын.

1. Няма легальных інстытутаў, структур, мэханізмаў, з дапамогай якіх працоўныя маглі б данесьці сваю занепакоенасьць, выказаць патрабаваньні да адміністрацыі. Працэс камунікацыі адбываецца толькі ў адзін бок: зьверху ўніз. Зваротнай сувязі няма. Тыя фармальныя інстытуцыі, якія, нібыта створаныя дзеля такіх мэтаў — напрыклад, прафсаюзы, калектыўная дамова і інш., — мёртвыя.

2. У грамадзтве няма адчуваньня, што крызіс усур'ёз і надоўга. Уладам удалося запэўніць людзей, што цяперашнія праблемы ў эканоміцы — справа часовая, выкліканая вонкавымі прычынамі. Хутка гэтыя вонкавыя чыньнікі зьменяцца, цэны на нафту павысяцца, Расея выйдзе з крызісу — і ўсё вернецца на ранейшы ўзровень. І гэта працуе.

3. Кантрактная сыстэма зьвязвае працаўнікоў па руках і нагах. Людзі асьцерагаюцца рабіць любыя крокі, якія выклічуць незадаволеньне начальства.

4. Большасьць найманых работнікаў працуе на дзяржаўных прадпрыемствах. І гэта важны псыхалягічны чыньнік, які засьцерагае ад праяўленьня пратэсту. Бо, па-першае, яшчэ існуе вера ў справядлівасьць «сацыяльнай» дзяржавы, якая, у адрозьненьне ад бізнэсоўцаў, дбае пра людзей, а ня толькі пра прыбытак. Па-другое, любы канфлікт з кіраўніцтвам дзяржпрадпрыемства аўтаматычна пераходзіць у канфлікт зь дзяржавай. А гэта ўжо палітыка. А за палітыку тут «садзяць».

5. За 20 гадоў пастаянных рэпрэсіяў аўтарытарнаму рэжыму ўдалося замацаваць у людзях страх. Ён сядзіць у падсьвядомасьці. Людзі элемэнтарна баяцца.

6. Моцна ўплывае досьвед украінскага Майдана. Украіна паказала, у што можа выліцца пратэст: кроў, забітыя, распад дзяржавы, эканамічны абвал, грамадзянская вайна і замежная інтэрвэнцыя. Таму лепш трохі пацерпім, затое мір і стабільнасьць.

7. Няма адчуваньня, што пратэст, выстаўленьне патрабаваньняў дадуць патрэбныя вынікі. Бо людзі бачаць, што дрэнна паўсюль, а ня толькі на іхнім прадпрыемстве ці ў арганізацыі.

8. Большасьць насельніцтва лічыць, што ў краіне няма сацыяльна-палітычнай альтэрнатывы. Народ ня бачыць грамадзка-палітычнай сілы ці палітыкаў, якія б прапанавалі зразумелы праект разьвіцьця краіны, альтэрнатыўны таму, што рэалізоўвае дзейны рэжым.

А пакуль эканамічны крызіс не перарастае ў сацыяльна-палітычны, то ўладам няма асаблівай неабходнасьці мітусіцца і нешта мяняць.

**Валер Карбалевіч**
**Радыё Свабода**

ПРАПАНОВЫ ЎЛАДАЎ

# СЯДЗІ СПАКОЙНА НА БЕРАЗЕ

**Беларускія паслядоўнікі літаратурных пікейных камізэлек жывуць надзеямі на структурныя рэформы. Нават памочнік АП прапануе грамадскую энергію накіраваць не «на выкананне даручэнняў, колькі на стварэнне, стварэнне новага».**

Цяпер прапаную заняцца практычнай псіхалогіяй. Я прывяду выказванні дзяржаўнага дзеяча, а чытачы папрактыкуюцца ў вызначэнне яго локуса кантролю.

*«Причины возникшей сложной ситуации в экономике очевидны: санкции против главного нашего партнера, падение цен на нефть, девальвация российского рубля, сужение российского рынка. Все это привело к естественному и резкому падению сбыта продукции на рынках наших ключевых партнеров не только в Беларуси, но и в самой России, Украине и Казахстане, на всем постсоветском пространстве».*

Нагадваю, неабходна вызначыць не аўтара выказвання. Аўтарства пытанняў не выклікае. Для тых, у каго паўсталі цяжкасці з першай цытатай, прыводжу другую: *«Кризисы когда-либо закончатся, рано или поздно, мы уже эти кризисы переживали не единожды, но когда выходишь из кризиса, и на твою продукцию есть спрос, а нет рабочего люду, нет рабочего класса, который производил эту продукцию, тогда беда».*

Спадзяюся, знаўцы кітайскай філасофіі і без маёй падказкі адчулі ўплыў Канфуцыя на нашага сучасніка. Яны маюць рацыю: «Сядзі спакойна на беразе ракі, і міма праплыве труп твайго ворага».

**Не да мадэрнізацыі**

Крызіс — гэта этап у развіцці сістэмы, калі сістэма аказваецца не ў стане адказаць на зменлівыя знешнія выклікі. Калі пагадзіцца з такім вызначэннем, то парада Канфуцыя можа апынуцца і бескарыснай.

Так, крызісы выклікаюцца знешнімі прычынамі. Яны даюць магчымасці як для развіцця, так і для дэградацыі. Выбар за палітычнай элітай. У красавіцкім пасланні адзінага палітыка (АП) тэма выбару стала цэнтральнай.

Ён пачаў з ацэнкі бягучай сітуацыі. Эканоміка — *«гарант нашей независимости»*, і сёння яна *«переживает не лучшие времена»*. Чаму? Таму што *«внешние факторы нам неподвластны»* і *«проблемы соседей немедленно становятся нашими собственными»*.

Для змены часоў (не самых лепшых на спрыяльныя) АП прапанаваў да канца года прыняць 10 важных рашэнняў, якія павінны забяспечыць новыя фактары росту. Пад уражаннем круглай лічбы расійская «Незалежная газета» на наступны дзень апублікавала артыкул пад кідкім загалоўкам «Лукашэнка адважыўся на эканамічныя рэформы».

Сапраўды, слова «рэформы» чатыры разы было згадана ў дакладзе, але як бы між іншым. Затое ўпершыню за апошнія 14 гадоў у пасланні не знайшлося месца для слова «мадэрнізацыя». Здзіўляцца гэтаму не даводзіцца. Новыя фактары росту — гэта набор адміністрацыйных мераў, накіраваных на павышэнне, узмацненне і ўдасканаленне. Іх аб'ядноўвала ў адзін пакет... адсутнасць патрэбы ў фінансаванні. Казна пустая. Рэальныя даходы насельніцтва падаюць. Не да мадэрнізацыі.

**Новая эканамічная ідэя**

У красавіку цудоўную нагоду для размоваў даў памочнік прэзідэнта па эканамічных пытаннях Кірыл Руды, які апублікаваў у «Беларускім эканамічным часопісе» артыкул «Структурныя эканамічныя рэформы: неабходнасць для Рэспублікі Беларусь і замежны досвед».

Прызнаюся, раздзел, прысвечаны пагаршэнню нацыянальнай эканомікі і дэфіцыту фінансавання, зрабіў на мяне вялікае ўражанне. Пераканаўчых лічбаў шмат. Абмяжуюся адным прыкладам. 2011 год у гісторыі беларускай мадэлі быў апошнім, калі прырост ВУП перавысіў сярэднесусветны. У бягучым годзе чакаецца падзенне. Апраўданасць негатыўных чаканняў пацвярджае вынік першага квартала (-2%).

Што прапануе аўтар? Аўтар прапануе рэформу структуры эканомікі. І зноў лічбы, лічбы. На гэты раз яны запазычаныя з міжнароднай статыстыкі. З іх дапамогай памочнік прэзідэнта ацэньвае структурныя эканамічныя рэформы ў 26 (!) краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы і СНД. Сацыякультурныя асаблівасці краін пры гэтым ігнаруюцца.

Але ўсе лічбы паспелі стаць гісторыяй, аўтар жа заклапочаны будучыняй Беларусі. У яе прапануецца ўвайсці з дапамогай «Новай эканамічнай ідэі». Цытую: *«Для новага эканамічнага рыўка неабходныя грамадская энергія, маральна-псіхалагічная матывацыя, натхненне, нацэленае не столькі на выкананне даручэнняў, колькі на стварэнне, стварэнне новага ў эканоміцы. Для гэтага патрэбна зарадзіць найбольш крэатыўную частка грамадства (навукоўцаў, прадпрымальнікаў, дзяржапарат) новай вялікай ідэяй, якая б аб'ядноўвала ўвесь соцыум. Такой ідэяй можа стаць, напрыклад, «калектыўны лібералізм», які прадугледжвае не плюралізм рознанакіраваных меркаванняў і рухаў, а грамадскую засяроджанасць на вырашэнні канкрэтнай эканамічнай задачы»*.

**З «большасці» на «меншасць»**

Беларуская мадэль выбудаваная па прынцыпу ўнітарнага прадпрыемства, г.зн. прадпрыемства з адным уладальнікам (УП «Беларусь»). Імя ўладальніка ўсім добра вядомае. Таму перш чым аналізаваць прапановы чарговага рэфарматара, неабходна зразумець, што ўласна прапануецца рэфармаваць: асобныя элементы ўнутры УП або само УП. У першым выпадку рэформы не прынясуць карысці. У другім — без згоды ўладальніка УП рэформы немагчымыя.

Аўтар прапануе ажыццявіць рывок за кошт маральна-псіхалагічнай матывацыі найбольш крэатыўнай часткі грамадства (навукоўцы, прадпрымальнікі, дзяржапарат). Калі выключыць з пераліку дзяржапарат, то ў сухім астатку мы атрымаем тыповых прадстаўнікоў беларускай «меншасці».

Аднак уладальнік УП ужо два дзясяткі гадоў абапіраецца на «большасць», якая не прэтэндуе на крэатыўнасць. Ці ўсведамляе аўтар ступень радыкальнасці сваёй прапановы? Думаю, усведамляе, але не да канца. Адсюль прызнанне, што *«без палітычнай волі не будзе ні падтрымкі, ні даверу да рэформаў»*.

Але палітычнай воляй у Беларусі валодае толькі адзін чалавек. У адрозненне ад свайго памочніка, ён выдатна разумее, што перанос апоры з «большасці» на «меншасць» у гістарычнай навуцы прынята называць «буржуазнай рэвалюцыяй». Але ці варта дзеля рэвалюцыі, няхай нават і буржуазнай, праяўляць палітычную волю?

**Д'ябал хаваецца ў дэталях**

Абгрунтаванасць маіх сумненняў рэгулярна пацвярджае сам уладальнік УП. Прыводжу прыклад, запазычаны з афіцыйнага прэс-рэлізу: *«Вот вы говорите, что щепу девать некуда. Давайте решим следующим заходом, что будем делать со щепой, коль рынок просел за пределами. Это мы должны сделать как можно быстрее. Начертим каждому губернатору, сколько он должен построить котлов, где он построит эти котлы, чтобы сжечь 1,5 млн. куб. м щепы».*

Нагадаю, памочнік АП прапануе грамадскую энергію накіраваць не «на выкананне даручэнняў, колькі на стварэнне, стварэнне новага ў эканоміцы». А чым у гэты час заняты сам АП? Ён вырашае прыватную праблему будаўніцтва катлоў. Вырашае ў звыклым для сябе стылі.

Жыццё, такім чынам, ідзе сваёй чарадой, а навукападобныя развагі па яго рэфармаванні — сваёй. І ў гэтым паралельным руху няма нічога новага і арыгінальнага.

Але не будзем адчайвацца. Крыху міжнароднай статыстыкі, якую так любіць памочнік прэзідэнта. Калі ў перыяд з 1820-х да 1950-х гадоў дэмакратычныя краіны павялічвалі падушавы ВУП у сярэднім на 2% у год, а дыктатуры — на 0,86%, то з 1950 года гэтыя паказчыкі складаюць 2,4% і 2% адпаведна.

Але д'ябал любіць хавацца ў дэталях. «Для ўсіх паспяховых дыктатур, — адзначае эканаміст Андрэй Мовчан, — агульным правілам з'яўляецца апора на брытанска-амерыканскую сістэму права, запрашэнне ва ўладу выпускнікоў брытанскіх і амерыканскіх ВНУ, стымуляванне атрымання заходняй адукацыі элітай. Можна казаць і шырэй: усе больш-менш паспяховыя дыктатуры мелі свайго роду дугатэрміновы кантракт з умоўным Захадам, які ўключаў у сябе маштабныя інвестыцыі, адкрытыя рынкі для заходніх карпарацый, двухбаковыя гандлёвыя прэферэнцыі і іншае».

Гэтым шляхам, дарэчы, спрабуе ісці Казахстан. Калі з 1994 па 2004 гады па адной толькі прэзідэнцкай праграме «Балашак» за мяжой навучыліся 785 чалавек, то, пачынаючы з 2005 года, іх колькасць перавысіла 3000.

Але ў Кірыла Рудога свой погляд на эканамічны рывок. У яго аснове ляжыць «грамадская засяроджанасць на вырашэнні канкрэтнай эканамічнай задачы», г. зн. мабілізацыя ва ўмовах аднадумства.

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы час"**

РЭХА ЧЭМПІЯНАТА

# «ПОЗОРИЩЕ – ЭТО КОГДА НАРОДУ ОБЕЩАЕШЬ ОДНО…»

**Чем хоккеисты и форумчане ответили Лукашенко за слова о «позоре за бездарный хоккей»**

Глава государства назвал позором результат белорусской сборной по хоккею в четвертьфинальном матче с Канадой на чемпионате мира, который закончился проигрышем со счетом 9:0.

– Позорище. Что мы только для них ни делали. Выйти и продемонстрировать такой бездарный хоккей – это позор: 7:0 (в игре с российской командой на групповом этапе), 9:0, – сказал Александр Лукашенко. – Мы пробились в плей-офф... Ну сколько можно об этом говорить. Пробились – так надо выигрывать! Канадцы – мощнейшая команда, трудно у нее кому-то выиграть. Но не 9:0!

Вскоре последовала реакция хоккеистов, отмечает sport.tut.by.

**Евгений Ковыршин:** «Критика со стороны президента? Я еще не слышал. Но лично меня это не огорчает».

**Алексей Калюжный:** «Лукашенко назвал поражения позором? Ну, это, кто как смотрит».

Напомним, по итогам чемпионата мира сборная Беларуси заняла седьмое место. На групповом этапе наши хоккеисты набрали рекордные для себя 14 очков. Среди поверженных оказались команды США (5:2), Словении (4:2), Дании (5:1) и Норвегии (3:2).

Отметим, что для многих болельщиков в целом результат сборной Беларуси, которая вошла в восьмерку сильнейших на чемпионате мира, стал приятным удивлением. А на оценку «позорище» от президента последовала бурная реакция на форумах. Приводим избранное.

**Форум talks.by**

«Канадская сборная, конечно, мощная команда. И играют они достаточно жестко. Конечно, было обидно за наших ребят. Хотя, признаюсь, тут я вервые не совсем согласен с президентом: наша сборная старалась, и матч был действительно тяжелый и сложный. И им самим горько от этого поражения. Это же было видно!».

«Судя по отзывам по этой теме на других сайтах и на этом – мнения подавляющего большинства людей и президента СОВЕРШЕННО не совпадают! И я не согласен. Сборная сыграла хорошо на чемпионате. Спасибо ребятам и тренеру!».

«Парни второй раз подряд вышли в плей-офф! Выиграли сборную США, отлично сыграли с финнами! В кои-то веки я действительно видел команду! А главному критикану я бы посоветовал стать тренером нашей сборной, вот там и посмотрим, что у него получится! Впрочем, все мы знаем, что у него всегда получается! Прекрасно ощущаем на себе действия этого великого хоккеиста!».

«Я заметил что мнение президента не всегда (а вообще всегда) не совпадает с мнением народа. В последнее время очень часто».

«Позорище – это когда целому народу на выборах обещаешь одно, а потом за пять лет ничего из обещанного не выполняешь».

**Форум by.tribuna.com**

«Только бы парни не обиделись на это и продолжали приезжать в сборную и впредь. Не для него ведь играют, а для всех белорусов».

«Позорище – это когда страна с таким колоссальным человеческим ресурсом постепенно превращается в однородную серую массу. Вот это беда... А пока есть такие хоккейные команды, как на этом чемпионате сборная Беларуси, убеждаешься, что ещё не всё потеряно».

«Уж что-что, а облить помоями он умеет. Хорошо, что не живем в Северной Корее, а то расстрелял бы всех из зенитного орудия».

**Форум pressball.by**

«Перепутал чемпионат мира с рождественским турниром...».

«Тут один «профи» набрал кредитов на 30 миллиардов долларов... Мы же ему не предъявляем, что должны жить как в Швейцарии».

...Кроме того, на сайте «Прессбола» продолжается опрос: «Хоккей. Оценка выступления сборной Беларуси на чемпионате мира-2015?». По данным на полдень субботы в голосовании приняли участие почти 3 тысячи человек. 67,6 % оценили результат сборной на «хорошо», 19,3% – на «отлично».

Эти цифры красноречиво демонстрируют, что в данном вопросе мнения белорусов и Лукашенко кардинально расходятся.

**Лера Василькова**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 30.05.2015 у 17.45**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.